


Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супраціў у Беларусі

выпуск 38 (51)

20–26 верасня 2021

***«У плыні сумневаў, мітрэнгаў і страхаў рух — гэта адзінае, што нам застаецца. Не спыняцца! Дыхаць! Не спыняцца! Удых-выдых! Не спыняцца! Рухацца! Ісці!»***

**Воля Чайкоўская**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА

**Максіма Шэўчыка арыштавалі на 15 дзён за фота з бел-чырвона-белым сцягам, якое ён выклаў у свае сацсеткі летам 2021 года.**



**Аляксея Бусла, гукарэжысёра і музыку гурта Favourite Mirror, затрыманага раніцай 9 верасня і арышатаванага на 15 сутак разам з маці, 24 верасня асудзілі яшчэ на 15 сутак.**



**У кватэры, дзе жыла Кацярына Пытлева, з сям’ёй, адбыўся другі ператрус. На гэты раз яго рабілі супрацоўнікі КДБ, якія былі здзіўленыя тым, што да іх хтосьці ў кватэры ўжо быў. Кацярыне Пытлевай інкрымінуюць артыкул 361 КК — той жа, што Марыі Калеснікавай і Максіму Знаку. У гэтым артыкуле пералічана ўсё — ад прычынення шкоды нацыянальным інтарэсам Беларусі да акта тэрарызму. Па ім Пытлевай пагражае да 7 гадоў зняволення.**

**Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» ліквідаванае 24 верасня па рашэнні Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь.**



# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ



**Ігару Банцэру хочуць змяніць рэжым з «хіміі» на папраўчую калонію.**





**Стася Міронцава:**
***«На фабрыцы ўжо даўно раблю нармальны працэс. Прышываю паясы ў штанцы... ну і маланкі... і яшчэ штосьці бывае. Спачатку з кожным працэсам так напружана, асабліва калі ад цябе чакаюць падачу. Бо ты робіш сваё і падаеш далей... А потым ужо шыеш сабе хуценька, ды ўсё. Справа вельмі манатонная».***



**Зміцера Шыманскага — дудара, затрыманага разам з удзельнікамі гурта Irdorath 2 жніўня, перавялі ў СІЗА на Валадарскага. Дагэтуль ён знаходзіўся ў ІЧУ ў Жодзіне, дзе цяжка перахварэў на COVID-19. З лістоў Зміцера да сваякоў вядома, што ён практычна не мае неабходных побытавых рэчаў, а ў перадачах не прымалі амаль нічога, акрамя ежы ды лекаў.**







**Мікола Папека, паэт, асуджаны да двух гадоў «хіміі», пражыў свае першыя 10 дзён у папраўчай установе ў Мазыры. Усе рэчы, якія ён прывёз з сабой, прапусцілі. Адносяцца да паэта без жорсткасці ці агрэсіі.**

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Беларуская дыяспара ў Чыкага арганізуе «Беларускі фестываль» для мясцовых супольнасцяў.**




**У Крысціны Бандурынай выходзіць новы зборнік вершаў «Псалмы і соннікі» – у перакладзе на рускую мову.**




**Кінафестываль «Паўночнае ззянне» ў анлайнавым фармаце праходзіць з 20 па 30 верасня.**



**Літаратурны спектакль «Мінск чуе цябе» адбыўся ў Мінскім бары «Бутлегер».**




**Быў абвешчаны поўны спіс прэміі Цёткі.**



**Малюнак Марыі Каленік з-за кратаў**

**Frau mit automat (Фрау з аўтаматам) — спекталь пад такой назвай падрыхтавалі прадстаўнікі і прадстаўніцы берасцейскай творчай прасторы незалежнага тэатра «Крылы Халопа». Прэм’ера адбылася 25 верасня ў Польшчы, паколькі ў Беларусі такая дзейнасць стала немагчымай.**






«Вузел надзеі» © Тосла

**Dekoder у супрацоўніцтве з Фондам Фішэра прэзентуе шэсць эсэ беларускіх аўтарак і аўтараў, што ў літаратурнай і паэтычнай, аналітычнай ці культуралагічнай форме звяртаюцца да тэмы будучыні Беларусі.**

**У Батумі створаны гурток па вывучэнні беларускай мовы для дзетак.**



# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Воля Чайкоўская, арганізатарка кінафестывалю «Паўночнае ззянне»:**
***«Кіно ўвасабляе нашу нязломную волю і аптымізм, прагу да жыцця і справядлівасці. Права — людзьмі звацца. Кіно ідзе таксама, як і час, імклівa і павольна, хаатычна і структуравана, але несупынна. Так, як вада камень точыць. Кіно ідзе, а фэстываль «Паўночнае ззянне» — казачны магічны праваднік, які зараджае стваральнай жыццёвай энэргіяй усіх, хто да яго спрычыніцца і дакранецца».***

**Максім Жбанкоў — культуролаг, кінааналітык, журналіст:**
***«У нас не проста культурная рэвалюцыя папярэднічала палітычнай. Сугучча масавых настрояў і мяккіх стратэгій культурнай працы стварылі тую «аксамітавую культурную рэвалюцыю па-беларуску», якая адбылася так, што практычна нікога не пакрыўдзіла. І ў той жа час амаль нікога не здзівіла – менавіта таму, што гэта была рэвалюцыя малых дзеянняў і прыватных фармулёвак. А палітычная рэвалюцыя ў нас яшчэ не адбылася».***



# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ



**Вольга Гапеева** атрымала прэстыжную літаратурную прэмію «**Rotahorn**».



**Вольга Шпарага** прэзентавала сваю кнігу «Жаночы твар рэвалюцыі» ў Магдэбургу. На сустрэчы таксама прадаваліся майкі з малюнкам літоўскай мастачкі **Юратэ Шліжытэ**, атрыманыя з продажу сродкі пойдуць на дапамогу жанчынам-палітзняволеным у Беларусі.



**Святлана Алексіевіч** атрымала прэмию **Зоннінга 2021**.

Warsaw Freedom Orchestra
выканаў «Перемен» у
падтрымку гурта Irdorath.



У межах міжнароднага кніжнага кірмаша «Свет кнігі» ў Празе была прадстаўлена незалежная сучасная беларуская літаратура.

Нямецкі бард Вольф Бірман
аддасць прысуджаную яму
прэмію імя Авідзія
Марыі Калеснікавай.






Відэа інтэрв’ю з Ганнай Комар
і Дзмітрыем Строцавым
на фестывалі Kapittel у Нарвегіі.




Выстава беларускага плакатнага пратэставага мастацтва ў нямецкім горадзе Эссэн.



Прадстаўніцы Міністэрства культуры Польшчы і польскіх арганізацый культуры сустрэліся з Паўлам Латушка і абмеркавалі магчымасці для беларускіх творцаў, якія пацярпелі ад дзеянняў рэжыму Лукашэнкі.

У царкве Braunschweiger Dom нямецкага горада Браўншвейге прайшла сустрэча з Вольгай Шпарагай, падчас якой прысутныя гаварылі пра беларускую рэвалюцыю і чыталі ўрыўкі з Вользінай кнігі «Жаночы твар рэвалюцыі».



«Беларуская пятніца» ў Львове – 17 верасня на розных пляцоўках горада прайшоў шэраг імпрэзаў, прысвечаных беларускай літаратуры.

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У верасні 3 чалавекі, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Максім Знак, юрыст, літаратар і музыка (4 верасня);**
**Аляксандр Васілевіч, менеджар культуры (14 верасня)**
**і Даніла Ганчароў, мастак па святле (27 верасня).**

**Адрасы, на якія можна дасылаць віншаванні:**

**Максіму Знаку і Аляксандру Васілевічу – СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2;**

**Даніле Ганчарову – Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.**

